# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 15 (270) | ГОД VII | БЕЛАСТОК 15 КРАСАВІКА 1962 | ЦАНА 60 ГР.

## 15 КРАСАВІКА —ПЛЕНУМ ГП БГКТ

15 КРАСАВІКА Г.Г. АДБУДЗЕЦЦА IV ПЛЕНАРНАЕ ПАСЯДЖЭННЕ ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА. ПРЫСВЕЧАНАЕ ЯНО БУДЗЕ АБМЕРКАВАННЮ ПРАЦЫ ГУРТКОЎ БГКТ. ПЛЕНУМ АДБУДЗЕЦЦА Ў ПАМЯШКАННІ ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ І ПАЧНЕЦЦА У 10 ГАДЗІН.

## КУБАК „НІВЫ"

**Гэты кубак рэдакцыя ўстанавіла для найлепшага самадзейнага калектыву (удзельніка турніру «Нівы») у 1962 г. Рэдакцыя пастанавіла таксама, што кубак будзе непераходны, як раней планавалася, а будзе ўручацца кожны год на ўласнасць пераможцам кожнага «турніру». Зразумела, што апрача «кубка» пераможцы атрымаюць таксама і прэміі.**





## 7 НАЙВАЖНЕЙШЫХ

20 сакавіка ў Беластоку адбылося пленарнае пасяджэнне Ваяводскага камітэта Фронта Адзінства Народа, якое прысвечана было разгледжанню дагэтуляшняй дзейнасці камітэтаў ФАН і накрэсленню кірунку далейшай дзейнасці.

### ВЯЛІКІ ПЛЮС І ВЯЛІКІ МІНУС

ФАН мабілізуе грамадства да грамадскіх чынаў: будова і рамонт дарог, меліярацыя, будова школ, рэміз, святліц. **Агульная вартасць грамадскіх чынаў за 1961 год сягае звыш 87 мільёнаў зл.** З гэтага **дарожныя чыны — звыш 62 мільёны, меліярацыя — звыш 8 мільёнаў** (без дзяржаўнай датацыі, з датацыяй — 85 мільёнаў). За найлепшыя дасягненні ў гэтай галіне трэба пахваліць паветы: Сямяціцкі, (але адно з апошніх месц у зборы на школы), Бельскі, Лапскі, Сувальскі. Найгорш у Сакольскім, Аўгустоўскім, Граеўскім (але першае месца ў зборы на школы). Першыя чатыры паветы разам выканалі амаль 50% усіх дарожных чынаў у ваяводстве. Грамадскім чынам зроблена за мінулы год: **132 кіламетры бітых дарог, 7 мастоў, 184 пропусты, пасаджана 53 359 дрэвак.**

Як чытачы напэўна ведаюць, да гэтага часу нашае ваяводства займае 1 месца ў краіне ў грамадскіх дарожных чынах. Можна спадзявацца, што і ў гэтым годзе не аддамо першынства. Вартасць прац выкананых грамадскім чынам на аднаго жыхара ў нашым ваяводстве раўняецца 82 зл. Найлепшыя пасля нашага ваяводствы Познаньскае і Варшаўскае маюць на 20 зл. менш на асобу.

На Беласточчыне маем 3.585 вёсак. Яшчэ нядаўна толькі 500 з іх мела ў вёсцы брукаваную вуліцу. Цяпер у новых 447 вёсках ёсць цвёрдыя вуліцы, а ў далейшых 550 у тракце забрукавання.

(Працяг на стар. 4)



Мгр Соф'я Канэцка ўжо 6 год працуе ў Станцыі ацэны насення. (праверка чыстасці).

## ПРЫВІТАННЕ ВЯСНЫ

Фота М. ТАРАСЕВІЧ

## НЕЗАБЫЎНЫ ДЗЕНЬ

У вёсцы Зубры (Беластоцкі павет) многа моладзі. Яе тут налічваецца каля 50 чалавек. Большасць вучыцца або працуе ў горадзе Беластоку. Адны штодзённа вечаровым цягніком вяртаюцца дахаты, іншыя — пры нагодзе свята. У кожным выпадку нават тыя, сярод маладых, хто закончыў школу і працуе ўжо некалькі год у Беластоку, утрымліваюць цесную сувязь з роднай вёскай. І яна выражаецца не толькі ва ўзаемнай невялікай (як гэта больш за ўсё назіраецца) матэрыяльнай падтрымцы дзяцей і бацькоў. Але...

**... моладзь нясе культуру ў вёску**

Субота. 10 сакавіка бяг. года. Зазвінеў тэлефон.

— Прыедзь сёння да нас у Зубры. Будзе выступаць наш мастацкі гурток... Да сустрэчы ў цягніку! — гаварыў у тэлефонную трубку мой знаёмы Саша Г.

Вечаровы цягнік у Крынкі перапоўнены. Знаёмага адшукаць не магу.

Калі я выйшаў з цягніка ў Крынках, знайшоў і знаёмага. Саша быў устрывожаны, што не прыехаў гарманіст з Беластока, Коля Лебядзінскі.

Ля станцыі стаяла падвод з дваццаць пяць. Большасць з іх накіравалася ў Зубры. У вёсцы рух і адначасова святочны настрой. Расказваюць, што а другой гадзіне пасля поўдня выступаў мастацкі гурток. Самадзейнікі паказалі свой рэпертуар вучням мясцовай 7-класнай школы. Была гэта, як назвалі самі самадзейнікі, іх «генеральная рэпетыцыя».

Вечар. У святліцы натоўп людзей. На сцэне, за шырмай, некалькі маладых людзей у нацыянальнай беларускай вопратцы, а некалькі — у «штацкай» святочнай. На тварах відаць хваляванне. Адзін энергічны малайчына кажа: «Каб так перад чужымі людзьмі, дык я зусім не хваляваўся б, а гэта ж выступаць перад аднавяскоўцамі. А калі не ўдасца...» «Не хвалюйся, Колік, павінна выйсці...» — суцяшала яго сяброўка.

(Працяг на стар. 5)

## СТАНЦЫЯ ДОБРЫХ УРАДЖАЯЎ

— Зерне - зернетку нароўнае, — гаворыць народная прымаўка. Хочаш атрымаць высокі ўраджай — сей толькі адборным зернем. Добра, але як пазнаць якасць зярнят? Гэтымі справамі займаецца Станцыя ацэны насення. У Беластоку арганізавана яе ў 1951 годзе Зараз станцыя мае дзве свае дэлегатуры, у Бельску і Элку.

— Земляробы Беласточчыны, — гаворыць кіраўнік Станцыі ацэны насення інж. Станіслава Блюсевіч, — усё больш карыстаюцца паслугамі нашай станцыі.

У мінулым годзе, напрыклад, зроблена тут 22.500 пробных праверак насення. А ў першых гадах існавання станцыі не было іх больш чым 300—400.

Зараз усё адборнае насенне (дастаўшчыкамі яго ў асноўным з'яўляюцца ПГР), якое прызначаецца на пасеў, абавязана прайсці праверку ў Станцыі ацэны насення. Менавіта гэтыя праверкі даюць магчымасць сялянам поўнасцю выключыць з пасеваў неадпаведнае зерне. Напрыклад, у мінулым годзе дзякуючы ацэне выключана з пасяўнога фонду 532 тоны адборнага жыта і 72 тоны пшаніцы. А сёлета выключана 47 тон ярай

(Працяг на стар. 5)

